UTROM EMPIRE

IDW

# TEENAGE MUTANT NINJA TURTLES

#1 • $3.99

ALLOR
KUHN
CRABTREE



# TEENAGE MUTANT NINJA TURTLES
## UTROM EMPIRE

У МІНУЛЫХ ВЫПУСКАХ... НА ВОСТРАВЕ БЁРНАЎ КРЭНГ СПРАБУЕ ПАБУДАВАЦЬ НОВЫ ДОМ ДЛЯ РЭШТКАЎ СВАЙГО НЕКАЛІ МАГУТНАГА НАРОДА – УТРОМАЎ. ЯМУ ДАПАМАГАЕ НАВУКОВЕЦ З РАСЫ ЛЮДЗЕЙ, ЯКІ ПЛАНУЕ ВЫКАРЫСТАЦЬ ТЭХНАЛОГІЮ КРЭНГА ВА ЎЛАСНЫХ МЭТАХ. ДЛЯ ВЫКАНАННЯ СВАІХ ПЛАНАЎ КРЭНГ ВЫЦЯГВАЕ ВЕДЫ З ГЕНІЯЛЬНАГА РОЗУМУ ПАЛОННАГА РОБАТА ФУДЖЫТОІДА.

WRITER: PAUL ALLOR • ARTIST: ANDY KUHN • COLORS: BILL CRABTREE
LETTERER: SHAWN LEE • EDITOR: BOBBY CURNOW


Regular Cover
Art by Andy Kuhn


Cover RI
Art by Kevin Eastman
Colors by Ronda Pattison


Subscription Cover
Art by Nick Pitarra
Colors by Greg and Fake Petre

nickelodeon™

Special thanks to Joan Hilty, Linda Lee & Kat VanDam for their invaluable assistance.

IDW®
www.IDWPUBLISHING.com
IDW founded by Ted Adams, Alex Garner, Kris Oprisko, and Robbie Robbins

Ted Adams, CEO & Publisher
Greg Goldstein, President & COO
Robbie Robbins, EVP/Sr. Graphic Artist
Chris Ryall, Chief Creative Officer/Editor-in-Chief
Matthew Ruzicka, CPA, Chief Financial Officer
Alan Payne, VP of Sales
Dirk Wood, VP of Marketing
Lorelei Bunjes, VP of Digital Services
Jeff Webber, VP of Digital Publishing & Busness Development

Facebook: facebook.com/idwpublishing
Twitter: @idwpublishing
YouTube: youtube.com/idwpublishing
Instagram: instagram.com/idwpublishing
deviantART: idwpublishing.deviantart.com
Pinterest: pinterest.com/idwpublishing/idw-staff-faves





Востраў Бёрнаў.

Маё імя Ханікат. Але ўжо даўно ніхто не называў мяне так.

Нейкі час я быў вядомы як Чэт Ален. Але гэтай асобы ўжо няма.

Цяпер я Фуджытоід – андроід-уцякач. Але маё жыццё пачалося ня ў целе андроіда. І я больш не ўцякач.

Я быў навукоўцам. Быў мужам і бацькам. Быў нават паўстанцам і шпіёнам. Але ўсё гэта ў мінулым. Цяпер я проста палонны і пешка.

Я ў такім адчаі спрабаваў усё выправіць. Сабраць усе кавалачкі і зноў скласці ў адно цэлае.

Я не ваяр, але ўсё ж стаў змагацца супраць міжгалактычнага ваеначальніка.

Я прайграў.

А зараз?




Усё дарма.












Я павінен знішчыць сябе. Сцерці гэты розум і ўсё, што знаходзіцца ўнутры.
Калі ў мяне не атрымаецца, Крэнг працягне выцягваць усе мае навуковыя веды. Ён выкарыстуе іх, каб скончыць Тэхнадром – мацнейшая зброя, пабудаваная для тэрафарміравання Зямлі ў новы дом для расы Крэнга, пад час чаго загінуць усе людзі.
Я не магу гэтага дазволіць.
Маркую, гэта ўсё, што мы паспеем сцягнуць, перш чым пачнецца шторм. Падазраю, хутка актывізуецца аўтаномны рэжым.
Пачакай, мы застанемся без энэргіі?
Не турбуйся.


«У найбольш важных сістэм ёсць рэзервовыя крыніцы энэргіі».


«У гэтым нас запэўніў доктар Стокман».


Кажаце, што двойчы праверылі ўзровень падрыхтоўкі да шторма?


Эм, т-т-так, сэр.
Дык праверце тройчы ці чатыры разы.
Лёс майго народа залежыць ад гэтага праекта. Мы зайшлі занадта далёка, каб дазволіць нейкаму паршываму ўрагану знішчыць імперыю ўтромаў.


Дагістарычная Зямля.


Давай, Юм. Я лічу, што супакоіў яе.


Якія ж дзівосныя рэчы можа прапанаваць гэтае вымярэнне.
І якія жудасныя рэчы чакаюць нас у нашым уласным.
Д'Хуніб абвясціў вайну. Мы не павінны былі пакідаць нашу планету.


Ах, ты ўсё ўспрымаеш блізка да сэрца. Прэм'ер-міністр Кванін ведае, што робіць.
Усё гэта хутка скончыцца.




Планета Утрамінон.
Праз шмат гадоў.
Вып'ем жа за генерала Крэнга! І за 21-ую касмічную дывізію!
За баявых яшчараў!


THE FIGHTING LIZARDS!
Міністр Кванін! Гэта гонар для нас.
Імператар Кванін. Рэспубліка даўным-даўно знікла.
Прашу выбачэння, ваша высокасць. Калі ласка, дазвольце мне пацалаваць ваша кольца.


Крэнг, я чуў, што ты шукаеш мяне. І што ў цябе добрыя навіны з фронту. Спадзяюся, яны вартыя гэтага... піру.


Імператар Кванін. Бацька Д'Хуніб капітуліраваў, Альянс Праксоіда знішчаны.
Карацей кажучы, імперыя ўтромаў здабыла мір.


Глыбока ў космасе. Астэроідны пояс Мольта VI.


Няўдача. Тут няма глею. Паўтараю, у гэтым месцы няма глею.
Гэта ўжо шосты. І гэты пояс пусты.
Зразумеў. Але мы павінны працягваць пошукі.
Ён патрэбны нам.
Чую вас. Падбярыце мяне, і можам...


BLAM




Спадары і спадарыні, вайна, магчыма, і скончана.
Але **паўстанне** толькі пачынаецца.




Утрамінон. Палац вярхоўнай рады. Праз месяцы.
Паўстанне мацнее з кожным днём. Мы павінны ўзмацніць нашу армію, а так сама ўзмацніць пазіцыі на далёкіх межах.
Я прызначаю Крэнга намеснікам Праксоіда. Там засяроджаны важныя цэнтры горназдабыўной і ваеннай прамысловасці, і...


Вайна скончана, ваша высокасць. Але мы ўсё роўна працягнем палітыку выцяснення. Каланізіруем новыя планеты і занявольваем новыя расы. Навошта?
Я стаміўся ад гэтых бяскон-цых спрэчак, дараднік Лорка. Калі мы перамаглі імперыю Д'Хуніба, узнік вакуум улады. Калі б мы не занялі яго, гэта зрабілі бы іншыя.
І я даю гарантыю, што наўрад ці яны спадабаліся б вам больш, чым я.


Чаму? Таму што яны захацелі б знішчыць нас? Гэта вы знішчаеце нас! Вы капаеце магілу ўласнай планеце, кінуўшы ўсе рэсур-сы на нікому не патрэбную імперыю. І дзеля чаго?


Трымай язык за зубамі, Лорка.


Вы не член Рады, генерал Крэнг! І знаходзіцеся тут толькі з нарады павагі. А ваш бацька...


Мой бацька – твой імператар!
А я - старэйшы член Вярхоўнай Рады! Мой абавязак – казаць ад імя народа.
**Хопіць!**


Народ у бяспецы. Далё-ка ад баёў. У блажэннай недасведчанасці.
Толькі гэта мае значэнне.




Востраў Бёрнаў.




ZZRK




BLINK!






Бакстар Стокман!
Кіраўнік Стокгена. Ён быў маім начальнікам, калі я хаваўся пад імем Чэта Алена.


Я чуў, як навукоўцы казалі, што лабараторыя Стокгена была знішчана. У яго жыцці надышлі цяжкія часы. Як і ў мяне. Але я не меў ніякага разумення, што ён знаходзіцца на востраве.


Я месяцамі ілгаў гэтаму чалавеку адноста сваёй асобы. Ён прыйшоў за адказамі на пытанні? Ці мабыць, каб адпомсціць?


VRRRMM







Ён нават не здагадваецца, што я быў Чэтам Аленам. Гэтага я не чакаў.

Я планую выкарыстаць шторм, каб нанесці столькі пашкоджанняў, колькі магчыма. Я хачу параніць Крэнга. Хачу паставіць яго на калені.

Ёсць меркаванне, што нашы інтарэсы супадаюць. І мне б не перашкодзіла твая дапамога.

Ён прапаноўвае мне выхад з лабараторыі. А калі я выйду, тады змагу знікнуць. Я змагу...



























Уварванне! Мне патрэбны кожны трыцэратон на гэтым камяні. Зараз жа!
Паглядзі **ўважліва**, Крэнг.




Проста пачакай, пакуль закончыцца гэта бітва.


Вы **здраджваеце** нам? Мы вас **стварылі**!
Я проста раблю тое, што лепш для майго народа. Калі б Імперыя ўтромаў рабіла тое ж самае, тады паўстанне скончылася б у лічаныя дні.


Мой бацька і я робім усё дзеля народа ўтромаў!


Ха!


Вы лічыце, што **гэта** на карысць вашай расы? Укладваць усе рэсурсы ў ваенную моц? Накіроўваць сваіх лепшых і адораных на край галактыкі, каб утрымліваць Імперыю ад немінучага правалу?
Кваніну патрэбна было заставацца дыпламатам. Ці нават міністрам. Калі ён абвясціў сябе імператарам, гэта стала пачаткам канца вашага народа.
Твой бацька ніколі не спыніцца. Яго хвалюе толькі славутасць і ўлада. І дзеля іх ён знішчае ваш народ.


KRAK


CRASH


ZARK




SLAM




Мы далі **жыццё** вашаму народу! Далі вам **мэту**!
Што добра для Імперыі ўтромаў, тое добра і для...
WHAM!
WHAM!
WHAM!
WHAM!
WHAM!


SMAK!




CRASH!









Я зыходжу. І пакідаю цябе жывым. Бо ў глыбіні свайго бліскучага перакручанага мозга ты **ведаеш**, што я маю рацыю. І гэта твой адзіны шанс.

Дабейся большага поспеху, чым твой бацька. Інач народ утромаў **ніколі** не знойдзе мір.






















Ага!
Блін, не будзе дзіўна, калі там будзе проста спіс куплі.
Тут **не** спіс куплі, Майкі.


Зусім **не**.




Востраў Бёрнаў.
Доктар Стокман, мы ідзем няправільным шляхам.


Тэхнадром знаходзіцца ў іншым напрамку. Калі мы збіраемся яго разбурыць...


Разбурыць Тэхнадром? Разбурыць мацнейшую з калі-небудзь створаных зброю? Вы звар'яцелі?
Тады... Тады куды мы ідзем?


Прама сюды.


Як я ўжо сказаў, я не проста хачу **спыніць** Крэнга.


Я хачу **параніць** яго.


Калі ласка, зразумейце, я не варвар. Гэта не помста. Гэта **тактыка**.
Калі перапблытаць суперніку карты, ён можа прыстасавацца. Ён можа пачаць усё спачатку.
Але калі нашкодзіць яму – **па-сапраўднаму** нашкодзіць – гэта яго дэстабілізіруе. Ён страціць кантроль над сабой.


І гэта адкрые дзверы любым **магчымасцям**.


Я павінен бяжаць. Пакуль ён стаіць да мяне спіной. Высклізну і знішчу сябе.
Але... Што ён тут плануе?




Вы зліваеце іх глей...
Гэта заб'е іх.


Так.
Гэта заб'е іх **усіх**.


**Апошнія** ўтромы ў свеце. І як толькі яны загінуць, Крэнг застанецца адзін.


Забяры ўсё, што ён любіць. Забяры справу ўсяго яго жыцця. І яму не будзе для чаго жыць.


Мабыць, ён мае рацыю. Мабыць, я павінен бегчы. Знішчыць сябе. І дазволіць Стокману знішчыць утромаў.
Ці магчыма...


THWAK


Прабачце, доктар Стокман. Вы робіце жудасную памылку.
Але я магу гэта выправіць.


Я магу выправіць усё.


TO BE
CONTINUED